тремъ, за писане палей, по шести потройныхъ, золотый одинъ и асмак. двадцать чотыри (ИЮМ, II, 206, 1684); Приняли меду квасного розсычоного кгарцовъ трыста и десять, кгарнецъ по шесть потройныхъ, чынитъ суммою (ИЮМ, VI, 4, 1689).

**Потрокротный** *прым. Тое, што і* потрикротный. просиломъ пилно вашихъ милостей, уряду, абы тое потрокротное оповедане наше и признане слугъ меских присяглыхъ до книгъ вашихъ милостей мескихъ могилевскихъ записано и принято было (ИЮМ, VIII, 382, 1623).

**Потронценье** *наз. Тое, што і* потрученье. якобы съ трункою того тѣла въ рукахъ ей милости пани Герциковое потронценье ... декретъ повторный одержалъ (АВК, XV, 485–486, 1686).

**Потросе** *прысл.* **1.** *У невялікай колькасці, трошкі, нямнога.* насѣнья цыбульного и иныхъ дробныхъ речей по тросѣ всего за копъ 5 (АСД, III, 298, 1583); хотѧ што потросе и е*ст* ꙋ кого книгъ писаныхъ, ино богъ то ведаеть если правдиве преписованые (Унія, 5б); гречихи конопель знакꙋ не было все мороз побилъ тогды всего того насенꙗ в киеве на волыню кꙋповали, и то потросе (Барк., 164); казал е^s теды елисе^s. абы напозычала порожных бочок. до которых понапꙋщала потросе ѡлею и бы*ли* по*л*ны (Бельск., 125); за малыи пн҃зи люде*м* збожа потросе продовано (Стрыйк., 615); хлѣба ѡного потросѣ ꙋживаючи мѣла есми до колка лѣтъ хочъ ꙋже былъ ꙗкъ камень стве*р*дѣлъ (Пралог, 572). *Параўн.* потроху *ў* 1 *знач.*, потроце, потроше *ў* 1 *знач.*, потрошку.

**2.** *Паступова, памаленьку.* до ст҃огѡ юрꙗ ледво што*с* жито посееное почало з земли ꙗвлѧтися а дрꙋгое ꙋсходити и то потросе (Барк., 165б). *Параўн.* потроше *ў* 2 *знач.*

**3.** *Крыху, трохі.* През которого се выполнили ѡныи знаки ѡ чомъ потросѣ выше^s се ѡписало (Кн. Мак., 52). *Параўн.* потроху *ў* 2 *знач.*

**4.** *У нязначнай ступені.* Кузма Курылович отпор чинечи такъ отказал, же ач того ремесла потросе умел, ино не от него, але от небожчыка отца своего научилъ (ИЮМ, XXXII, 69, 1578).

**Потроху** *прысл.* **1.** *Тое, што і* потросе *ў* 1 *знач.* ѡстатокъ дꙋ*жших* запроважено на пꙋщу где потрохꙋ ечменѧ ꙗко быдлу давано (Зб. 107, 95).

**2.** *Тое, што і* потросе *ў* 3 *знач.* але же и свѣтскимъ особам^s ꙗко розсꙋдо*к* о вѣре и наоуце и тое мѣстце а голосъ на синода*х*

почасти слꙋжилъ и слоужитъ, вже сѧ выше потрохꙋ показало (Апакр., 57).

**Потрохъ** *наз. зб. Вантробы, трыбухі.* пан Хветко ... взялъ ... рыбы вялой за две копе грши, потроху рыбего вялого за полторы копы гршей (АВК, XXXIX, 207, 1579); до комяги вложоно ... потроху вялого солянки две, за тот потрох две копе шацовано (Там жа, 227).

**Потроце** *прысл. Тое, што і* потросе *ў* 1 *знач.* Книга глаголемаѧ кроникъ, сиречь собраніе, ѡ*т* многихъ лѣтописецъ ... ѡ Россійских и ѡ литовских Гспдрствах. Такъже и ѡ полских панствахъ потроце (Хран., 1).

**Потроше** *прысл.* **1.** *Тое, што і* потросе *ў* 1 *знач.* пчолы есмо выдрали и нашли есьмо меду въ одной сосне зъ медницу, а у иншыхъ соснахъ потроше (АВК, XVIII, 126, 1594).

**2.** *Тое, што і* потросе *ў* 2 *знач.* которыѕ ... весло*м* не роби*л*, такиѕ або бы наза*д* ѡ*д* воды потроше знесеныѕ бы*л* (Зб. 261, 83).

**Потрошку** *прысл. Тое, што і* потросе *ў* 1 *знач.* мꙋсел бы кажъдыѕ кажъдыѕ (так!) потро*ш*кꙋ мѣ*т*, а жаде*н* бы се не нае*л* (Зб. 82, 90).

**Потрощаный** *дзеепрым. Патрушчаны, паламаны.* помосты и столы зысподу и зверху в сенехъ и в светлицы узбиты и потрощаны и драницы взодраны (АВК, XXI, 372, 1558).

**Потрудивыйся** *дзеепрым. ад* потрудитися *ў* 1 *знач.* Опрочъ тыхъ Ап*ст*ловъ, еще естъ единъ Ап*ст*лъ с҃тый павелъ паче всѣхъ потрꙋдивыйсѧ въ Бл҃говѣствованіи Вѣры Христіанскіѧ (Зб. вып., 87б).

**Потрудити** *дзеясл.* **1.** *Абцяжарыць працай.* рече гсь оу сто*м*. евѵглии ... аще потрудіть дш҃ю свою мене раді. то во еваѵгліи спсть ю (Чэцця, 198); добро есть намъ потроудити тѣла своѧ бра*т*е (Там жа, 290б); Страхъ и грозу и обличение наведеть на нь, и потрудить его въ смутку наꙋчениѧ своего (Скар. ІС, 10).

**2.** *Стаміць працай усіх, многіх.* если будут свое кони потрудили, нехаи сѧ на свѣжых збодают (Трыст., 90).

**Потрудитися** *дзеясл.* **1.** *Папрацаваць; прыкласці шмат старання.* хто потрꙋдитсѧ въ молитве. томоу готоваеть бъ҃ нбсное црство (Чэцця, 303); Понеже мало потрудишисѧ вѕ делехъ еѧ, и борздо ꙗсти будешъ ѡ*т* овощевѕ еѧ (Скар. ІС, 13); молоды*м* рицеремъ подобае*т* воевати, бо которій млодости потрꙋди*т*сꙗ,

тотъ на старо*ст* впокою потребꙋе*т* (Алекс. 1697, 5б); любо не ест<sup>s</sup> [Апостолъ Павелъ] ѡ*т* числа двоенадесѧти Ап*ст*ловъ, але же много потрꙋдисѧ (Зб. вып., 88). *Параўн.* потружатися.

**2.** *Перанесці, перацярпець пакуты.* Постражди: потрꙋдисѧ (Бяр., 114).

**Потружати** *дзеясл. Натруджваць.* по се*м* разговоры з боꙗры столечными своими ѡ полепшеніи земли своеѧ ... а коли оусхочешь ести по ѡбычаю своемꙋ и ты потрꙋжал (оу)ды свои бореньe*м* или ездою на кони (Арыст., 230).

**Потружатися** *дзеясл. Тое, што і* потрудитися *ў* 1 *знач.* Іѡан ст҃ы<sup>s</sup> болше<sup>s</sup> иных потрꙋжалсѧ (Зб. 82, 354).

**Потрусити, потрусить** *дзеясл.* **1.** *Трасучы, пасыпаць (чым-н.), пацерушыць.* повелелъ е*ст* Даниилъ слугамъ своимъ и принесли суть попелу, и потрусили по всемъ храме предъ царемъ (Скар. ДП, 38б); даниил вызволи*л* собѣ то ꙋ кролꙗ, и*ж* потрꙋси*л* бѣлы*м* попело*м* по божницы (Бельск., 156); казалъ даніилъ слуга*м* свои*м* потрꙋсить землю попело*м* (Зб. 82, 260б).

**2.** *Раскідаць, рассыпаць па паверхні (насенне, збожжа і пад.).* влостную землю пана моего, на которой вжо былъ я ячмень засеялъ, поорали и своимъ ячменемъ потрусили (АВК, XVII, 305, 1541).

**3.** *Патрэсці, пацерабіць (каго-н., чыё-н. адзенне) з мэтай вобыску.* гонилес мене тепе*р* ꙗко ꙗкого збѣга, потрꙋсилес мене, а зна<sup>s</sup>ти ꙋмене своей жадной намгѣ<sup>s</sup>шои речи не моглес (Біблія, 70).

**Потрути** *дзеясл. Патруціць, атруціць усіх або многіх.* пꙋсти*л* цеса*р*ство сынови сꙋлимови, сы*н* новы<sup>s</sup> цеса*р*, новы<sup>s</sup> зако*н*, напе*р*ве<sup>s</sup> ча*ст* рады старои цеса*р*скои потру*л*, ча*ст* помо*р*дова*л* (Бельск., 408); нанꙗла*м* пастыра па*ст*, а ѡ*н* ми и*х* потру*л* и волками и псами пощва*л* (Стрыйк., 598).

**Потрутити** *дзеясл.* **1.** *Штурхаючы, закранаючы каго-н., нанесці пашкоджанні.* панъ Матей Желикговский наехавши мене, и конемъ потрутилъ (АВК, XXI, 180, 1556–1557); где бы хто беременнꙋю невесту шлѧхтѧнъку збилъ або коне*м* потрутилъ и забилъ (Ст. 1588, 410); мꙗ ... потрꙋтивши в болото в колѣно и болшъ глꙋбокое стали надо мною з велики*м* тумꙋ*л*томъ люде<sup>s</sup> (Дыяр., 161б); бра*т* ѡны<sup>s</sup> ꙋпавши в само*м* ꙋпадку потрꙋти*л* діѧвола и звeтежи*л* (Зб. 107, 125).

**2.** *Падштурхнуць, штурхнуць.* панъ Зубрыцкий ... пиштолетъ рукою потрутилъ, же не в перси, але в руку левую шкодливе пострелилъ (АВК, XX, 324, 1638).

**3.** *Адлічыць, вылічыць.* тое раты до ска*р*бꙋ нашого не ѿ*т*даючи въю*р*кгельтъ собе потрꙋтилъ (ККСС, 115б, 1615); совитости и заруки платити наказать рачили, досыть же въ самой истизнѣ потрутивши то, што ей милость ... взяла, сторона моя истить деклярує тъ (АВК, XII, 455, 1662).

**Потруха** *наз. Тое, што парастрэсена, парассыпана.* я возный виделъ есми, ижъ покошоно сеножати ... и з сеножатей побрано и звезено, и потруху виделъ есми (АВК, XXXVI, 175, 1582); виделомъ, ижъ потруха от тых стогов пошла до села Титвы (Там жа, 334).

**Потручати** *дзеясл. Штурхаючы, закранаючы каго-н., наносіць пашкоджанні.* пришло студентовъ колькодесять ... тамъ же въ церкви людей попихали ... паней и паненъ потручали (АВК, VIII, 30, 1598); Порѣваю: Попыхаю, потрꙋчаю, пхаю, трꙋчаю (Бяр., 113).

**Потрученье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* потрутити *ў* 1 *знач.* пакли ж бы тое по*т*рученье и ѡбраженье невесты береме*н*ное сталосе неꙋмыслне пригодне ѡ томъ маетъ быти сужоно ꙗко ѡ иншихъ мужобо^с^ствахъ неꙋмысльныхъ (Ст. 1588, 411). *Параўн.* потронценье.

**Потручоный** *дзеепрым. ад* потрутити *ў* 3 *знач.* если бы таꙗ рата мела быть вельмо*ж*номꙋ ма*р*шалъкови потрꙋчона (ККСС, 59б–60, 1615).

**Потрушеный** *гл.* потрушоный

**Потрушенье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* потрусити *ў* 1 *знач.* оземшы дей есмо следъ потрушенье жита съ тыми людьми добрыми сторонными привели дей есмо следомъ и трушеньемъ жита ажъ до дому Рафала Парфеновича (АВК, XVIII, 90, 1591).

**Потрушоный, потрушеный** *дзеепрым. ад* потрусити *ў* 1 *знач.* слѣдъ отъ гумна моего до ихъ дому пришолъ и овесъ по дорозе потрушонъ (АВК, XVII, 41, 1539); возный ... на гумне виделъ жито потрушено (АВК, XXII, 104, 1555–1565); шли есмо следомъ, куды тое збоже несено и потрушоно (АВК, XVIII, 193, 1603).

**Потрыкротный** *гл.* потрикротный

**Потрыкроть** *гл.* потрикроть

**Потрэба I** *гл.* потреба I

**Потрэба II** *гл.* потреба II

**Потрэбный** *гл.* потребный

**Потрэбованый** *гл.* потребованый

**Потрэбовати** *гл.* потребовати

**Потрясанье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* потрясати *ў* 2 *знач.* не пристоитъ на початокъ забавлятися въ потрясаняхъ слодкогласованяхъ, але розумѣти, што поетъ (Пыт., 80).

**Потрясати, потресати** *дзеясл.* **1.** *Выклікаць дрыжанне, рух чаго-н.* Бо ꙗкъ человѣкъ на Крсте распинанетъсѧ, ꙗкъ Бг҃ъ зась сл҃нце темностˢю покрываетъ, землю потрѧсаетъ (Варл., 291).

**2.** *Трэсці, размахваць чым-н., выхваляючыся і пагражаючы каму-н.* тутъ умоцованый его ... потресаетъ листомъ приватнымъ якимси якобы ... пана Януша Кишки (АВК, XX, 375, 1664). // *перан. Ваяўніча спасылацца на пэўную аргументацыю, сведкаў, прыхільнікаў і пад.* ꙗвнѣйшихъ доводѡв дѣепис потребоуетъ, злаща зˢ стороны свѣтских, которыми хотѧ вѣдаючи же не они власне але дховные на соборѣ берестейскомъ соуд ѡтправовали часто потрѧсаетъ (Апакр., 73); кгды о то просилъ маркіана цесара, и пѹлхеріи цесаревой, не потрѧсаетъ тым, же емѹ тое першее мѣсце и першее сѣданье належитъ, але што; то за собою потѧгаетъ, же востѡчніи епспи ... все были помѣшали, и зле моци своеи оуживали (Там жа, 147б). *Параўн.* потрясывати.

**Потрясненый** *дзеепрым. // перан. Пазбаўлены ўстойлівасці, трываласці.* короткост, непевност, и ѡблудность котораꙗ в жывоте нашом есть, еще над то многими и розличными тѣла и дш҃ы неndзами есть потрꙗснена (Зб. 255, 436).

**Потрясовати** *гл.* потрясывати

**Потрясти, потрасти, потрести** *дзеясл.* **1.** *Выклікаць дрыжанне, рух чаго-н.* михаил апсла петра невидимо вывелъ ис темнице ... и темницею потрѧслъ (Чэцця, 72б); бъ҃ землю потрѧслъ (Там жа, 169б).

**2.** *Абтрэсці ўсё, многае (пра плады).* панъ то вѣдаетъ, што было въ той коморе, и садъ потрасли (АВК, XVII, 34, 1539); Степанъ а Гаврило Ханцовичъ, нашодши кгвалтомъ садъ мой властный, груши и яблыка и сливы потрясли (Там жа, 142, 1540); хто бы шлꙗхътичѹ садъ ѡвощовыˢ пры дворе стоꙗчыˢ кгвалтовне потресъ пощыпалъ ... тотъ маетъ заплатити дванадъцат рѹблеˢ грошеˢ (Ст. 1588; 390–391); хто бы на чыемъ кгрѹнте ѹ поли ѡвоцъ

ꙗки[s] в загороде пощыпалъ або потресъ, тогды за то вины маеть заплатити тры рѹбли гроше[s] (Там жа, 391).

**Потрястися, потрестися** *дзеясл. Страсянуцца.* Землѧ потреслаcѧ. каменье распадолосѧ (Чэцця, 169б); в тотъ часъ потреслаcѧ гора (Там жа, 203б); землѧ потрѧсесѧ и небеса, и облаци спустиша дождь (Скар. КС, 12); запрошоны[s] ... повторе кгды такъ заколоталъ а*ж* се весь до*м* потрꙗ*с* (Зб. 107, 158б).

**Потрясывати, потрясовати** *дзеясл.* **1.** *Патрэсваць.* борьца. люи. на то*м* мѣстьци приправленъ сталъ ... головою потрѧсываꙗ (Чэцця, 57).

**2.** *Тое, што і* потрясати *ў* 2 *знач.* тотъ попъ того Яна Кравца въ дому моемъ двема служебникомъ своимъ бити казалъ, а грошми потрясывалъ мовячи: бийте на мою шию, я заплачу (АВК, XVII, 51, 1539). // *перан. Ваяўніча спасылацца на пэўную аргументацыю, сведкаў, прыхільнікаў і пад.* его [папежа] на сме*р*телной постели лежачого ... дх҃овные прелатове тѣшили, потрѧсѹючы тымъ, же онъ ключи црства нбсного в роукѹ маючи, если же инымъ тогды поготовью собѣ, до него двери отворити можетъ (Апакр., 173).

**Потселый** *прым. Згусцелы (пра вадкасці).* видел ... на нозе правой рану синю кровю потселою (АВК, XXXIX, 159, 1579).

**Потсени** *гл.* подсени

**Потскарби** *гл.* подскарбий

**Потставка** *гл.* подставка

**Потстаростий** *гл.* подстаростий

**Потстивость** *гл.* почтивость

**Потстивый** *гл.* почтивый

**Потступный** *гл.* подступный

**Потсудокъ** *гл.* подсудокъ

**Поттати** *дзеясл. Падтаць, злёгку растаць.* тепер яко тот оны сне*т* поттало тогды покотилсе на дол у реку Днепръ и ударил у бойдак мой (АВК, XXXIX, 206, 1579).

**Потуга** *наз.* **1.** *Магутнасць, моц, сіла.* тѹ*р*ки видꙗчи та*к* великѹю мо*ц* и потѹгѹ цеса*р*скѹю мѹсили ѹстѹпова*т* (Бельск., 389б); Авгу*ст* ... на кроле*в*ство по*л*ское встѹпи*л*, которое з великою мо*ц*ю и потѹгою и мѹдрос*т*ю справова*л* (Стрыйк., 621б); Потѹгою абовѣмъ нбсного скарбѹ вси правды цноты справѹютъ (Мак., 188); такъ моцъ противнаѧ и розѹмъ, ровной силы сѹть з[s] собою и ровной потѹги естъ шатан[s] до намовы и принады дш҃и на

свое здан^s^е (Там жа, 268); побожные и ст͠обливые мꙋжи всюды были преслѧдованы, незбожникове зас богатствомъ и потꙋгою квитнꙋли (Варл., 7б). ◊ З о в с е й п о т у г и – *інтэнсіўна, моцна.* в небе ѡни ничого не чинѧт иного ѡдно зо всей потуги своей бг͠а хвалѧт (Пралог, 547б); н а п о т у г у – *у меру магчымасцей, наколькі магчыма.* если на потугу и статокъ воли, што хочутъ, статечне хочут, ани сѧ то ѡтмѣнѧт в том што разъ пред себе возмутъ (Пралог, 547). *Параўн.* потенкга, потужность *у* 1 *знач.*

**2.** *Моцнае войска, узброеныя сілы.* пришол цар персків з великою потꙋгою на римскꙋю землю (Бельск., 260б); выправил в литовскою землю глински^s^ коли ꙋслышал иж крол тѧгне з великою потꙋгою (Стрыйк., 576б); Свинорскій ... яко якихъ неприятель, а снать же маючи яковые шпеги въ пущи отцовъ Базылиановъ власной съ тою своею потугою кгвалтомъ взялъ (АВК, I, 331, 1661); княз Алексей Микитич Трубецкій з войскомъ Московским з великою потугою арматно подступивши под замок ... замок огнем выпалил и опустошил (ИЮМ, XXVIII, 119, 1666). *Параўн.* потужность *у* 2 *знач.*

**3.** *Намаганне.* сѧ тое все людскою потꙋгою стало (Варл., 293б–294). *Параўн.* потужность *у* 3 *знач.*, потужство.

**4.** *Падмацаванне, дапамога.* тотъ челядникъ ... въ надею потуги ... того Ейсимонта ... на бой вызывать почалъ (АВК, XX, 268, 1621). *Параўн.* потужность *у* 4 *знач.*

**Потугъ** *наз. Пабор; вызначаная колькасць людзей, якая абкладалася пэўным паборам.* Билъ намъ чоломъ ключникъ Кіевскій Сенько Полозовичъ и просилъ у насъ именья въ Кіевъскомъ повете въ Завъшской волости, на имя Хабное, и людей 10 потуговъ (КЗ, 147, 1493).

**Потужне** *прысл.* **1.** *З вялікай сілай, моцна, магутна.* ракус ... кгды кн͠жатем ихъ зостал, натыхмѣстъ ѡные посторонныи неприѧтели потꙋжне ꙋскромил (Хр. польск., 2); Превротный засъ дꙋхъ ... до шлѧхетного Млоденца ложницы пришолъ, и на него потꙋжне напалъ, сродзе роспалѧючи печ телеснꙋю (Варл., 270); Доблѣ: доблественнѣ: Дꙋже, потꙋжне, стале, менжне (Бяр., 34); то ѡднакъ такъ великое коло презъ сем тисечъ лѣтъ и болше^s^ безъ перестанку такъ потужне и такъ прꙋдко ѡбертает (Пралог, 547). *Параўн.* потэжне.

**2.** *Трывала, стойка, непахісна.* видꙗчи то печенигове иж *им* володымер потꙋжне се стави*т*, не смѣли натыра*т* (Стрыйк., 447); тое не толко до оучениковъ мовитъ Хс҃, але и до всѣхъ вѣрных[s] ... змоцнѧючи насъ абысмо сѧ потꙋжне за вѣрꙋ заставовали (Каліст, II, 3б); росказалъ мне архимандритѣ подписоватисе, ямъ се отегалъ и збороняль, але гды потужне наступовалъ ... о чымъ нехай справу передъ в. м. дадутъ (АСД, IX, 117б, 1627); добре змлада богꙋ слꙋжы*т* и з цноты в цнотꙋ постꙋпова*т* ... потꙋжне вси трꙋдности превытꙗжы*т* (Зб. 255, 202–202б); на ѡнъ соборъ до цр҃ꙗгородꙋ былъ посланы[s]: где сꙗ теды велми мужне и потужне ставилъ ѡ православную ст҃ую вѣрꙋ (Пралог, 584б).

**3.** *Пераканаўча, абгрунтавана.* так сꙗ гнева*л* паве*л* апслъ на кори*нт*чика ѡ*д*ного и потꙋ*ж*не его штроѳова*л* (Зб. 261, 246); пе*р*шие хрстиꙗне ве*л*ми моцно и потꙋжне поганы в *их* ба*л*вохва*л*ствѣ тыми ви*р*шами сиби*л*лъ приганꙗли и перепирали (Бельск., 198б); Которыхъ значне и потꙋжне Ге*л*ліꙋсъ шкрипторъ оуставою Со*л*ѡна в[s] кни*г*: в҃. гла*в*: не҃. боронити и обмовлѧти здаетъсѧ (Мак., прадм., 3б–4).

**4.** *Інтэнсіўна; моцна праяўляючы якія-н. здольнасці або ўласцівасці; з вялікай напружанасцю і эфектыўнасцю.* жолънере велми потужне силы прыложывшы. а ѡколо муру пилне сѧ забавившы, за тры годины мѣсто взѧли (Атыла, 224); ѡба*д*ва ты*и* поту*ж*не воюю*т* (Зб. 261, 90б); потꙋжне до ни*х* стрелꙗно (Стрыйк., 593б); ꙋра*д*никъ ꙗна мꙋснецкого ... бꙋдꙋчы на змове з ꙋрожоны*м* ꙗно*м* га[s]ко*м* ... потꙋжне того граниче*н*ꙗ боронили (ККСС, 44б, 1615); ꙋважъ ꙗко х*с*с те*р*пливе все знови*т* ... ꙗко потужне проме*н*ми ласки свое[s] ѡсвещае*т*, и ѡмывае*т* дꙋшу е[s] (Зб. 255, 171).

**5.** *Узначнай ступені, вельмі, крайне.* Не звитѧжилисмо, речетъ, ѡ старче, не звитѧжили, але рачей потꙋжне естесмо звитѧжены (Варл., 263б).

**Потужней** *прысл. выш. ст.* **1.** *Ад* потужне *ў* 1 *знач.* Атылѧ, будучы тою ворожкою нопомененыи, того ж днѧ почалъ места лепеи и потужнеи добывать (Атыла, 223); мнимали сынове ве*н*ꙗминовы, же бы ꙋтекали и потужней гонили забивши з войска ихъ мужо*в* три*д*цати (Біблія, 136).

**2.** *Ад* потужне *ў* 2 *знач.* хто противъ неприѧтелеви потꙋжьне[s] стоитъ и зрады его лепѣи вѣдаетъ (Унія, 30); которы[s] познае*т*

же то реч ест далеко зацнѣˢшаꙗ маеꙮ потꙋжнѣи ити противко розꙋмови (Зб. 261, 78б); ꙋваж, ижь чыстост ѡбороною законною и иными помоцами бꙋдꙋчы ѡпатронаꙗ, тым потужнеˢ законник може тѣло свое с пожадливостꙗми распꙗти (Зб. 255, 417).

**3.** *Ад* потужне *ў 4 знач.* часомъ бовѣмˢ потꙋжнѣй запалѧетъсѧ и горитъ ѡгонь, а часомъ слабѣй и тишей (Мак., 73); ничого потꙋжнеˢ и серъдечнеˢ людѣ не звыкли миловат ꙗко малые дети не толко людские але и бестые (Зб. 255, 137–137б).

**4.** *Больш дасканала, умела, дакладна.* налѣпей и потушней (так!) быти можеть границы залогою людей осмотрѣны были (АСД, I, 139, 1565); вистнѣе – оупріимѣи, потꙋжнѣй (Зіз., 19); мелъ ѡбычаˢ писмо ст҃ое читаючи каждомꙋс словкꙋ и росказаню пилъне припатровалъ: и ѡно розбират и тым потꙋжней в скꙋткꙋ все выполънит (Пралог, 677б).

**Потужнейший, потужнейшый** *прым. выш. ст.* **1.** *Ад* потужный *у 1 знач.* збавител през ꙋмартвене сталсꙗ потужнѣˢшим (Зб. 261, 90–90б); дъявол не мает потужнѣˢшое зброи против чл҃кви, ꙗк тѣло (Там жа, 90б); мстислав ... потꙋжнѣˢших мꙋжов выводил на чоло (Стрыйк., 489б); несправедливымˢ Бг҃а чинитˢ, ꙗкобы натꙋрꙋ чл҃чꙋю мѣлъ потоплѧти, длѧ того же шатана оуслꙋхала, и же потꙋжнѣйшимъ естˢ и своею поневолною моцю чл҃ка под себе подбиваетъ (Мак., 25); Чи могли грешити Апсли, если бы хотѣли; чили ласка потꙋжнѣйшаѧ была, нижъ ихъ волѧ (Там жа, 259).

**2.** *Ад* потужный *у 5 знач.* нехаˢ жебы ѡдно чого пане боже ꙋховаˢ тые геретыкове ... надъ рымлѧны верхъ ѡдержали, и такъ ꙗко въ анкглии маючы по собе пана вѣрꙋ рымскꙋю и въсе набоженьство рымское выкоренили [ѡ што се стараютъ] ꙗко ѡ потꙋжнеˢшое певне бы и намъ ... не зборговали (Унія, 30); маем писма ст҃ых пророков, которие сꙗ пилне доховали, и потужнеˢшꙋю на ꙋмоцене вѣри нашои повагꙋ мают (Бельск., 199).

**3.** *Ад* потужный *у 6 знач.* панове рада наши ... еще чотыри тисечи людей служебныхъ приняли, для потужнѣйшое обороны противъ непріятеля (АСД, IV, 212, 1565); имъ болшеˢ дровъ до ѡгнꙗ прикладаемо, тымъ барзеˢ потꙋжнеˢшиˢ бывает (Зб. 259, 360).

**4.** *Ад* потужный *у 7 знач.* певенъ естемъ же тымъ сѧ намъ хотѧ вˢ вѣрѣ ѡт насъ розныи боудꙋчи, еще прихилнѣишимъ і до лѣченьѧ оуразѡвъ [на полі – ꙗзвъ] нашыхъ тым хꙋтнѣишим и потꙋжнѣишимъ ставити рачит (Апакр., 3б).

**Потужникъ** *наз. Саўдзельнік у якой-н. справе, памочнік.* Станку Тяботовичу чотыри чоловеки даньники: Д[а]в[ы]да а Дениса, а съ нимъ потужники два (КЗ, 12, 1467); мы имъ не потужники, а съ Мжуромъ Шаховичомъ не въ плѣмени, ани съ ними службою ѡдною служимъ ... а земли свои ѡсобныи за мѣжами маемъ (КСД, 91, 1514); васко збоевичь с потꙋ*ж*ники своими шапъкꙋ з рꙋблѧ гроше^s^ поставилъ (КВЗС, 9, 1533); Я маю съ тымъ Сенькомъ и зъ потужникомъ его Кузмою Дешуковичомъ гаикъ поспольный (АВК, XVII, 81, 1540); жаловали передъ нами мытники наши пиньские ... сами от себе и отъ иншихъ потужъниковъ своихъ мытниковъ ... на старосту (Пін., 88, 1551); вжываючы тот кгрунт, повинни ... всяких повинностей земских чынити чергою с потужниками нашими (АВК, XXXI, 87, 1591); жаловали передо мною ... Жданъ Мартиновичъ, лавникъ, самъ отъ себе и отъ потужниковъ своихъ всихъ, подданыхъ того села, на протопопу могилевского (ИЮМ, X, 355, 1672).

**Потужное** *прым. у знач. наз. Від падатку.* Зъ села Нещередского подданые его королевское милости давати повинни (дань) ... отвозного и потужного по шестнандцати пенязей грошей двадцать чотыри (АЮЗР, I, 230, 1589).

**Потужность** *наз.* **1.** *Тое, што і* потуга *ў* 1 *знач.* абы толко тое ѡдно мѣсто не было прожно ѡт того так великого сэрца королѧ можности и потужности хотѣлъ под ним великого нещастѧ досвѣтчыти (Атыла, 221); жаднаѧ людскаѧ потꙋжно*ст* не могла собѣ да*т* помочи (Бельск., 389б); всѧко*ж* ꙋважа*л* потужность и мо*ц* частокро*т* досвѣтчонꙋю во^s^скъ немецких збро^s^ных (Стрыйк., 533б); онъ то есть, о которомъ Д҃ѣдъ реклъ, ты владнешъ потꙋжностью морѧ, и повстанье навалнѡстій его ты оукрочаешъ (Каліст, II, 51); жаден^s^ вшелѧко в^s^ певном^s^ и сталомъ не естъ постановен*ю*, то ест^s^ ани богатый и доста*т*ній в^s^ бога*т*ствах^s^, ани можный в^s^ потꙋжности, ани мꙋдрій в^s^ мꙋдрості (Варл., 121); Ѕѣлно*ст*: Протѧжен*е*, можно*ст*, гвалтовност^s^, попꙋдливост^s^, силность, потꙋжность (Бяр., 46); чꙋжіи посторо*н*ныи и неналежныи кланѧю*т*сѧ емꙋ, и великꙋю потужно*ст* новонарожоного ѡпов[ѣ]даю*т* (Жыц. св., 113б).

**2.** *Тое, што і* потуга *ў* 2 *знач.* роскаже*т* себе вмѣсто б҃а почитати. и та*к* з великою пꙋ*м*пою и потꙋ*ж*ностю прійде*т* до іюдеи (Каз. Кір., 140б); въ томъ часѣ наступилъ сеймъ у Варшавѣ, на который

воевода Кіевскій зъ великою потужностью пріехалъ (АЗР, IV, 217, 1600–1605); Потом коли сѧ вси воѕска литовские и новгородские с полочани до него сѧ стѧгнꙋли, зараз ѡбачивши потꙋжност тѧгнул ѡхотне глꙋбеѕ в жомоитскꙋю землю (Стрыйк., 533б).

**3.** *Тое, што і* потуга *ў* 3 *знач.* справы и потужности наши якіе были, Богъ вѣдаетъ и в. м. сами (АЗР, III, 171, 1574).

**4.** *Тое, што і* потуга *ў* 4 *знач.* в том же року был крол его млт змовлѧючисе ѡ потужности пришлое воѕны (Еўл., 29); евсевии з ариѧнми иными. намовил на то цесара, с которого мела великую потужност (Жыц. св., 105).

**5.** *Аўтарытэт, уплывовасць.* Вм҃ моемоу млстивомоу паноу инша, которого потоужность моцныи фоундамента маючи не боитсѧ того, але и своим и посторонымъ страна быти моуситъ (Апакр., 3).

**6.** *Дзейнасць, абгрунтаванасць.* чоуйности, дѣлности и потоужности обороны ихъ [патріарховъ] противъ еретикѡмъ свѣдкомъ есть самѕ тотъ скоутокъ, же ласки бж҃ей патріархіи і цр҃кви греческіи ѡт всѧкой змазы еретической теперъ соуть чистыми (Апакр., 183). *Параўн.* потужство.

**Потужный** *прым.* **1.** *Які валодае вялікай фізічнай сілай, дужы (пра чалавека і жывёлу).* тѣло вперод ꙋмертвил, а потꙋжным был (Зб. 261, 90б); татарове, видѧчи новых гостеѕ а перед тым несвѣдомых и собѣ велми силных и потꙋжных не могли вытрват третег танцꙋ (Стрыйк., 555); самого толко себе розꙋмѣючи быти и мꙋдрымъ и розꙋмнымъ и доброго родꙋ, богатымъ, потꙋжнымъ и справедливымъ ... зачимъ зневажене ставаетѕ сѧ початкомъ пыхы (Каліст, I, 4); Ани бовѣмъ хто коли ѡт людей смертелныхъ былъ, жебы который зѕ тыхъ речій што справити моглъ, ани кроль, ани мꙋдрый, ани богатый, ани потꙋжный (Варл., 146б); Сѡсѳенѕ: Избавител можный, або моцный, твердый, недобытый, на тѣлѣ потꙋжныи (Бяр., 311); ѡглѧди зо всегѡ людꙋ мꙋжей потꙋжныхъ и бг҃обойныхъ, вѕ которыхъ бы была правда (Хран., 95б).

**2.** *Цвёрды, стойкі, з валявым характарам (пра асобу).* хто естъ такъ потꙋжнымъ абы оумысломъ пановати, а до вѣренѧ того, чого сꙋмнѣне чіе не пріймꙋетъ, або до невѣреньѧ того што пріймꙋетъ приневолити кого мочи мѣлъ (Апакр., 216–216б); ѧко жыды потꙋжни были во ѡскарженью; так хсс статечным был в зношеню всего терпливе (Зб. 255, 262–262б); вѣрни сутъ, мудри сутъ, потужни сутъ, чого сѧ боймо (Пралог, 548б).

**3.** *Добра ўзброены, баяздольны (пра войска).* для большого способу и войска потужного ку валце и про лепшое убеспечен[ь]е особы нашое господаръское у войску вси станы ... уфалили ... податокъ на людъ служебный (КПД, 415, 1567); цар асириsскиs послал фарфана и равосана и равсака з лахиса до царꙗ иезекиꙗ з потужным войском до иерꙋсалиму (Біблія, 503); кгды прибѣжал цесар, з потужным двором своим, напал на тꙋрки и забивал их (Бельск., 389б); тоs болеслав ... вси пограничныи непріатели ꙋскромил и панства их наежчал, а жаден не был такъ потꙋжныs жебы ему моглъ достатечныs ѡтпоръ дат (Хр. польск., 6); всѣмъ вs бѣдахs и припадкахъ бꙋдꙋчимъ певною оутѣчкою, кгрꙋнтовною потѣхою, потꙋжною обороною ... и выбавеньемъ сѧ ставаетs (Каліст, II, 211б); если же народъ ꙗкій потꙋжный з ровнымъ собѣ задеретъсѧ (Мак., 159); костентин мыслил в ночы въ ѡбозе ꙗко бы того потужънаг неприꙗтелꙗ моглъ поконати (Зб. 82, 23).

**4.** *Магутны; які мае вялікую ўладу, уплыў, аўтарытэт (пра дзяржаву, манарха, значную асобу).* длѧ того права сꙋть постановлены, абы можномꙋ и потꙋжномꙋ, не все было вольно чынити (Ст. 1588, прадм.); тамъ тыхъ часѡвъ была столица потоужного цесарѡв римскихъ панства, которое сѧ над всѣмъ свѣтом ростѧгало (Апакр., 115); были то кн҃жата зацныи и барзо потꙋжныи так иж пановали немал всими народами словенскими (Стрыйк., 436б); ѡчекивали абовем жидове нѣꙗкогос кролꙗ великаго и потужнаго (Жыц. св., 137); пришли кs немꙋ велможи великіе воеводы, и потꙋжные рицерове (Алекс. 1697, 99).

**5.** *Значны па свайму ўздзеянню на каго-н., абгрунтаваны, пераканаўчы.* занехавши такъ потужные доводы, абысь, поднесши очи свои ... обачилъ, яко выбранные Божіе ... въ православной вѣрѣ сіяють (Пыт., 8); Которые слова Кирилъ Александрійскій беручы за потужный доводъ противъ Ѳеодорита Кипрского, доводитъ, ижъ Духъ Светый такъ отъ Сына, яко и одъ Отца походитъ единымъ дыханием (Гарм., 176); немаш ничого такъ потꙋжного, што бы нас побꙋдит мело до навороченꙗ ѡт грехов ... ꙗко розмышлꙗне мꙋки крестное хрстовое (Зб. 255, 72–72б); нехаs ꙋслышат слова мои бо сут потꙋжны (Пс. XVII, 164).

**6.** *Значны па напружанасці, інтэнсіўнасці, ступені праяўлення якіх-н. якасцей, уласцівасцей.* ни о што иного, одно о оборону и потужную валку шло (КСД, 406–407, 1567); длѧ густости куль

и инъшыхъ пострѣловъ, частю тэжъ длѧ частыхъ а потужных великого люду штурмовъ, жадэн чоловѣкъ до бороненьѧ муру прыступити не смѣлъ (Атыла, 205–206); лвица такъ потꙋжъныѕ рикъ з пащеки своеи выпꙋщает, ажъ се местце где лвѧ спит затресет (Зб. 259, 10б); далеко ѧблко албо угори, албо презъ ѧкиѕ вѣтръ потꙋжныѕ ꙋпадает ѡт своеѕ власнои ѧблони (Там жа, 345).

**7.** *Здольны, умелы, дасведчаны.* не опꙋскаймосѧ, анѣ поддаваимосѧ их штоденномꙋ штꙋрмованю, але моцно и потꙋжнымъ розꙋмомъ спротивмо сѧ имъ (Каліст, I, 70); розꙋмъ ест такъ потꙋжныѕ, ѧкобы глꙋбина неизслѣдованна (Зб. 259, 451б).

**8.** *Моцнадзейны (пра лекі).* на то засе все ест потꙋжъное лекарство моцное взгаржене самог себе (Зб. 261, 162). ♦ Мыто потужное – *від падатку.* торъги тежъ вольные купъцомъ тамошнимъ безъ даваня и плаченя мыта потужъного на веки, и иныхъ вымышленыхъ мытъ, только мыта до скарбу нашого отъ соли ... платити повинъны будутъ (ИЮМ, I, 355, 1619).

**Потужство** *наз. Тое, што і* потужность *у* 6 *знач.* на ѡн же часъ длѧ лѣпшого потоужства потреба бы пилно при ваш кж мл, с тыми всѣми котѡрыхъ вм҃ способишъ дѣлѧ застановеньѧ моцного против таковой зрады, абы на листѣ отвористомъ зацных пн҃ѡвъ шлѧхты вѣры нашей греческой печатій зо двѣстѣ опоноуючи себе с подписами роукъ на помочъ оу себе мѣти могъ (Апакр., 19–19б).

**Потуль, потуле** *прысл.* **1.** *Датуль, да таго месца.* грань положили есьмо и князю Федору Ивановичу увезали, потуль ему тое земли смотрети и грани, и держати зъ выжъ-мяноваными людьми (АВК, XIII, 12, 1508); потуль есть граница пановъ моихъ и потуле люди пановъ моихъ ведуть границу (АСД, I, 57, 1546); меновалъ дей передо мною вижомъ якобъ потуль межа старая была (АВК, XXI, 47, 1555); онъ поведиль, ижъ дей поле мое, потуль межа идетъ, для тогомъ пооралъ (АВК, XXII, 267, 1565–1566); границꙋ ... з дрꙋгои стороны по ꙋгрꙋ рекꙋ глꙋбокꙋю и болотнꙋю котораѧ почаласе недалеко ѡт дорогобꙋжа, в лѣсе за смоленском мил иг҃, межи калꙋгою и воротыном, а впадает вѕ великꙋю рекꙋ ѡкꙋ, потул сталасѧ граница з москвою (Стрыйк., 544). *Параўн.* потоль *у* 1 *знач.*

**2.** *Датуль, да таго часу.* покуль была его воля, потуль въ насъ былъ (КЗ, 460, 1486); покуль бы отчины ихъ зъ рукъ непріѧ-

тельскихъ не вынялъ, потуль не мѣлъ его милость въ нихъ самыхъ и по ихъ животѣ въ жонъ и дѣтей ихъ того двора отнимати (РПП, 207, 1508); к*ожды*и повин*ны*и во*и*ну служити ... з во*и*ны выехати не сме*л* потуль поку*л* бы все во*и*ско н҇що и ра*д* наши*х* не было роспущано (Ст. 1529–Ф, 28); его милость дей панъ мой потуль того уживаетъ, покуль вода зъ ставу заливаетъ (АВК, XVII, 444, 1565); в которомъ везенью потѹль маеть седети покуль рѹкоемъство на томъ дасть ижъ стороне своеˢ за все досыть ѹчынить (Ст. 1588, 262); поки не приˢдеть ѡ*т*стѹпление потѹль антихристъ не приˢдетъ (Унія, 32б); жить намъ по посольску въ Москвѣ, потуль, покуль посланники его отъ короля его милости звернутся (АЗР, IV, 300, 1608); ч҇лвкъ поту*л* грѣхи на собѣ мае*т* поки в хр*с*та не вѣри*т* (Зб. 752, 554). *Параўн.* потоль *у* 2 *знач.*

**Потумъ** *гл.* потымъ

**Потупенье** *гл.* потупленье

**Потупление** *гл.* потупленье

**Потупленый** *дзеепрым. Асуджаны, пакараны.* потоуплены были есте нине чере*с* дерево крижово (Пак. Хр., 30); также тые ѡмеліе без титоула оу ц҇ркви хрестіанскіхъ вз*ѧт* ка*к* и с титоуло*м*. да не залежи*т* тое на которого ч҇лвка, штобы ѡриена албо которого иного ч҇лвка соуди*л* быти потоупленого албо спасеного занюж во всех сторона*х* оусточны*х* (Валх., 83).

**Потупленье, потупенье, потупление** *наз. Асуджэнне, пакаранне.* осоуженіе потоупленіа оуз*ѧл* ѡ*т* пилата (Пак. Хр., 32); иные хрестіаны простые книги ѡриеновы исжечи хотели. да тогды многіе бискоупове сьездилисе на оустоце да многіе рады ѡ потоупленію книг ѡриеновыхъ чинили (Валх., 82б); боꙗзнь б҇жаꙗ наганы гроза выгна*н*е *с*трѹче*н*е мѹки кара*н*е потупле*н*е з б҇гъ ѡ*т*цъ по б҇гѹ во тр*о*ци с*н* (Дыяр., 173); ѡсѹжденіе: Потѹплѣнье, сказанье, ѡтсѹженье (Бяр., 200); Геена: мета҇ѳ: Ѡсѹж*д*еніе, потѹпе*н*е (Там жа, 263).

**Потупляти, потупяти** *дзеясл. Асуджаць, караць.* Пере*д* люд*ми* и иные секты потѹпꙗли, а то што было ѹ жидо*в* все сꙗ то ѹ на*с* хрстиꙗ*н* наˢдѹе (Бельск., 166); Господь Богъ въ томъ ся не кохаетъ, въ чомъ костелъ потупляючи вѣру Христову забавляется (АЗР, IV, 234, 1600–1605); Хр*с*тіане не маютˢ никого посѹжати ани потѹпл*ѧ*ти р҇ко. (Мак., 405); ѡсѹж*д*аю: оусѹжаю, потѹпл*ѧ*ю (Бяр., 200).

**Потурбованье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* потурбовати. надто родит потѹрбоване всего чл҃ка внѹтрънего (Зб. 261, 143).

**Потурбовати** *дзеясл. Патурбаваць.* потѹрбѹет в слове все так розѹмъ взрок и иные смысли (Зб. 261, 214б); все тое панство и прилеглые ему повѣты потурбовали (АСД, VI, 122, 1608); ѹнѣѧ ... так потурбовала панство тое споко^s^не же не тылко в краинах в кнѧзствахъ повѣтахъ в мѣстах и мѣстечках (Дыяр., 167).

**Потуремникъ** *наз. Турэмшчык.* За картою отъ п. войта слузе потуремнику на пoхованье дитяти дали золот. одинъ (ИЮМ, I, 31, 1679); дровъ до турмы Семену потуремнику возъ одинъ, осм. двадцать (ИЮМ, V, 9, 1688). *Параўн.* потуремный *у* 2 *знач.*

**Потуремное, потуромное** *наз. Плата ад вязня за сядзенне ў турме.* платил; потуромного мистру грошей дванацать, от меча грошей шестнадцать, вижованого копу грошей (ИЮМ, XXXII, 54, 1578); ѡт вѧзне^s^ ѡт вшелѧкого везенья потѹремного поланцѹжного ... дванадцать гроше^s^ (Ст. 1588, 144); децкованья за то не брать, одно грошъ одинъ поколодного, альбо потуромного, воловъ ани коней за невыданье податку а ни за што иншого николи не грабити (АСД, I, 188, 1594); Потуремного такъ отъ мѣщанина яко и отъ волощанина грошъ одинъ (АЗР, IV, 130, 1596); Которого ... державшы дни чотыры, потуремное взявшы, яко человека невинного, выпустилъ (АВК, XX, 319, 1638).

**Потуремный, потуромный** *прым.* **1.** *Які мае адносіны да турмы.* Шинъ пять до оконъ потуремныхъ по асмаковъ пятнадцать, заплатили золот. три (ИЮМ, I, 265, 1682); Столяру за направу потуремного стола додали ему золот. десять (ИЮМ, II, 159, 1684); За направоване замка потуремного, што ворота замыкаютъ, заплатили слесару Терешку осм. осмнадцать (ИЮМ, VII, 50, 1690).

**2.** *У знач. наз. Тое, што і* потуремникъ. купили железы конские для вязневъ до турмы, которые оддали до рукъ Семену слузе потуремному, дали, золотый одинъ (ИЮМ, III, 113, 1685); за направу потуремного замка дали ... (ИЮМ, VI, 135, 1689); За перевожене избы потуремное до млыну, за фуру дали золот. чотыри (ИЮМ, IX, 91, 1692); сторожу потуромному, што стережетъ Кузевъки дали зол. два (ИЮМ, XI, 131, 1697); Купили Семену, потуромному, возъ дровъ ... (ИЮМ, XIII, 28, 1699).

**По турецку** *прысл. Па-турэцку.* которых теж нѣкоторые еѳнографове тириетами зовут: тепер тамтыи вси народы трац-

кие тꙋрки ѡпановали ѡбыватели тамошныи по кгрецкꙋ, по тꙋрецкꙋ и по словенскꙋ (Стрыйк., 422–422б).

**Потурнейший** *прым. Больш адпаведны, лепшы.* з господемъ се пременити немашъ сродкꙋ потꙋрнеꙸшого ꙗко молитвꙋ вспомни (Зб. 255, 8б).

**Потуромное** *гл.* потуремное

**Потуромный** *гл.* потуремный

**Потурчаючийся** *дзеепрым. Які прымае мусульманства.* то тые не грѣшатъ и боудꙋтъ вымовлени, которые за дх҃ѡвными патріархіи оуставичне сѧ ведлꙋгъ твоего непевного писма потрꙋчаючими бесꙋрманѧтъ (Апакр., 65б).

**Потурчити** *дзеясл. Прыняць мусульманства.* длꙗ доброго имѣнꙗ потꙋрчилъ хотꙗꙸ зас добримъ хрстиꙗниномъ былъ (Хр. польск., 22б).

**Потурчитися** *дзеясл., зв. ад* потурчити. кгды бы сѧ лоуцкій владыка потоурчилъ ... тогды бы ѡвцы его были вымовлени пред гм҃ъ бг҃омъ, кгды бы его прикладом до махомета пристали (Апакр., 65б).

**Потутнати** *дзеясл. Загрымець, загрукацець.* мчн҃ца ... почала молитисѧ госу бг҃оу своемоу на многъ час доколꙗ потоутнало въ цр҃кви (Чэцця, 64–64б). *Параўн.* потутнути.

**Потутнути** *дзеясл. Тое, што і* потутнати. потꙋтнеть землѧ. оустрѧсетсѧ ѡт гласа трꙋбного (Чэцця, 373б).

**Потуха** *наз. Надзея.* Выправꙋючисꙗ теды з галилеи на того тирана костантин мѣл ѡт всѣх потꙋхꙋ ѡ выꙸграню битвы (Бельск., 261б); иꙋстинии потухою два еи коморники смѣли ст҃го амбросиѧ на гадане вызватъ (Зб. 82, 237).

**Потушити** *дзеясл. Абнадзеіць.* Выправꙋючисꙗ иꙋлиꙗн на персы двои воꙸски собѣ готовал ѡдно з жолнеров, а дрꙋгое з дꙗволов, жолнѣров мѣл ѯ҃е тисꙗчеꙸ, а до предных балванов римских по всѣм панствѣ послы розослал, пытаючи их ѡ повожене и звитꙗзство, ѡдни емꙋ потꙋшили, а дрꙋгие з галилеи из римꙋ диꙗволи стеречисе емꙋ казали (Бельск., 282).

**Потчение** *наз. Узнящце.* Скѵнопигіа, Потченіе сѣни, кꙋчки (Бяр., 310).

**Потчися** *дзеясл. Спатыкнуцца.* ѡнъ ... пришол на волгоу рекоу. потчесѧ под нимъ конь (Чэцця, 244).

**Потштовый** *гл.* почтовый

**Потщание** *наз. Стараннасць, імкненне.* Научитъ мовлю и читати по Славенскꙋ ... гды при ней за повиннымъ потщаніемъ вашимъ читаны бꙋдꙋтъ звыклымъ школъ способо*м* Славенскіи лекціи (Сматр. Гр., 4–5).

**Потщательный** *прым. Дбайны, руплівы.* Нꙋжднѣйшій: Потщательный, пилнѣй потребнѣйшій (Бяр., 99); радуе*т*сѧ нбсны*х* си*л* собо*р*. и*м* же бл҃годарное ес*т* ꙗко бꙋ соедінени быхо*м*, и ко лꙋчшемꙋ санꙋ пріведени, чл҃колюбны убо су*т* зѣло, и по*т*щате*л*ны егда на слу*ж*бꙋ посылаю*т*сѧ (Жыц. св., 128).

**Потщивати, потщювати** *дзеясл. Падцкоўваць.* дик жалова*л* на фалка и*ж* его потщіва*л* собакою своею а собака его укꙋсила (Вісл., 27); фа*л*ко запре*л* жебы его не потщюва*л* (Там жа).

**Потщиватися** *дзеясл. Пастарацца, паклапаціцца.* потщитесѧ свершити постное течение (Чэцця, 308–308б); ѿ*т*че, отче, потщисѧ (попеважесь въ славѣ Свѧтыхъ божихъ) мѣть печꙋ о насъ (Лям., 14).

**Потщювати** *гл.* потщивати

**Потъ I** *наз.* **1.** *Пот.* вънегда обратихсѧ ко всемъ деломъ моимъ ꙗже сꙋть оучинили руце мое, и ко трудомъ моимъ в нихъ же всуе трудихсѧ даже до поту (Скар. ЕК, 5); Ѿ выходе*х*. Пре*д*реченны*х* ꙗко ка*л* и моча и потъ и слина (Арыст., 182); теже до лазни ра*д* хоцзаю. але потꙋ не *до*ваю (Неба, 68б); хустку маючи в рꙋкахъ, тва*р* хоро^s^ ѿ*т* поту ѿтирала (Пралог, 539б); пустилсꙗ з них по*т* ꙗко зъ жро*д*ла вода (Зб. 752, 450); пустилсѧ з ни*х* по*т* ꙗко з жерела вода (Зб. 82, 102); длѧ того пивомъ, млеком^s^, потом^s^, вином^s^, медом^s^, слезами, слиною, и водами приправными, окрещенъ быти чл҃къ не может^s^, сиѧ бо всѧ водою назвати сѧ не могꙋт^s^ (Зб. вып., 8). ◊ П о т ъ  к р и в а в ы й – *пот, змешаны з кроўю.* занюжь ѡнъ ведал гораздо како велікіе моуки ме*л* терпѣти. да з оного роушеніа тела его его потъ кривавы*и* капа*л* на землю. те*ж* и прест҃аꙗ голова его такъ з оного потоу кривавого (Пак. Хр., 6); на онъ ча*с* коли сѧ приближила мука его и брань или валка з неприꙗтеле*м* пилней сѧ молилъ, такъ иже сѧ кровавым^s^ пото*м* потилъ (Будны, 177б–178); дꙋ*х* ти ... в пра*в*де е*ст* ѡхотны^s^, але тѣло мдлое, а бꙋдꙋчы в тꙗ*ж*кос*ти*, кгды потъ кривавы^s^ збега*л* на землю, ты*м* се до*л*же^s^ молилъ, и ꙋказа*л* сꙗ ему а*н*гелъ з неба посилꙗючы его (Зб. 255, 243).

**2.** *Вадкае выдзяленне (часам як сімвал трагедыі).* На пѧтыи дн҃ь листвіе кровавы*м* пото*м* потитисѧ бꙋде*т* (Сівіла, 9–10); з

себе пꙋщает *ш*а*р*латны*и*, то естъ багровы*и* по*т* которого збирают на ша*р*ла*т*нꙋю фарбꙋ (Зіз., 54); всѧ земълѧ и древа крвавыˢ потъ выдавати з себе бꙋдꙋтъ (Зб. 259, 356б); звѣрата бꙋдꙋтъ страшливе рычати. Древа потъ крвавый зˢ себе выдавати (Зб. вып., 96).

**3.** *Праца, вялікае намаганне.* тое все ѡ*т* поту, або ра*д*ней ѡ*т* крови ꙋбогы*х* людей мусить господарь або силою, або хитростию вылупити (Будны, 63); Вѣдать рачишъ о его подвигахъ, о потахъ, Въноччноднєвно стоѧнъю, о працахъ, роботахъ (Лям., 12); Теперъ часъ дѣла*н*ѧ, и сѣѧ*н*ѧ, и кꙋпова*н*ѧ: теперъ працовитымъ оусилова*н*емъ, оуставѣ*ч*ными працами, и трꙋдолюбны*м* пото*м* зˢ пи*л*ностью сѣисмо, жебысмо напотомъ вˢ покою и вˢ весел*ˢ*ю жали (Каліст, I, 146–146б); Ѧкъ много оныи давныи, поганскіи Поетове и Римодѣеписове: Мл*с*тивый П҃не Чашнику, П҃не и Добродѣю нашъ Мл*с*. працы, потꙋ, чꙋтˢѧ и неспанˢѧ подыймꙋючі: Лѣта, дни и часы травили: очˢю и здоровˢѧ збывали (Паўуст., 2–2б); Многои прето працы и потꙋ потреба, жебы, хто оуглѧдѣлъ и заложилъ основꙋ нимъ огонь вˢ ср*д*ца лю*д*скіи ввойдетъ (Мак., 164); Пта*с*тво и и*н*ные бе*с*тыи бе*з* потꙋ, речеˢ потребны*х* набываютъ; то*л*ко самъ человекъ во *д*ни и в ночы мꙋси*т* працова*т* (Зб. 255, 437); за малое вызна*н*е великую далъ ему заплату, на которое дрꙋгие много потꙋ своего наложили (Зб. 82, 312). ◊ В ъ  п о т е  л и ц а  (о б л и ч а,  ч о л а) – *прыкладваючы вялікія намаганні.* терние и осотъ возраститˢ тобѣ и снеси былие земли вˢ потѣ лица своего ести будешъ хлебъ свои (Скар. КБ, 13); Поневажъ на Адама тотъ законъ, высылаючи его з раѧ, взложилъ, абы ꙋ потѣ лица своего елъ хлѣбъ свои, и землю бы дѣлалъ по всѧ дни живота своего (Будны, 38); Проклѧта бꙋде землѧ в дѣле твое*м*, што мѣле*с* мѣти жи*в*но*ст* бе*з* працы которꙋю тобѣ мѣла землѧ доброво*л*не родити ꙋже тепе*р* того мѣ*т* не бꙋдешъ, але за працою и в потѣ лица твое*г* бꙋдешъ ести хлѣбъ твоˢ (Бельск., 6); в потѣ лица своего Ѧдалъ хлѣба своего (Зб. 107, 123); В потѣ чола твоего, ести будешъ хлѣбъ (Пралог, 542б); але за працою и в потѣ чола твоегѡ бꙋдешъ ести хлѣбъ твой по вси дни живота твоегѡ (Хран., 10); В потѣ ѡблича твоего (Выкл., 6); д о  к р и в а в о г о  п о т у – *да поўнай знямогі.* Частокротный Х҃а Збавителѧ нашегѡ всеночный, ажъ и до крвавогѡ потꙋ подвижный молитвы (Сматр., 28); при тоˢ роботе ажъ

до кривавого потꙋ и ажъ до смерти працовалъ (Зб. 259, 250б); с ъ потомъ (у поте) – *з вялікімі намаганнямі.* взѧвши ... тело ... хо*т*ѧчи оуложити его оу свои гро*б* новыи которыи выковал был оу поце (Пак. Хр., 15); ре*ч* емоу гсь. проклѧта зе*м*лѧ в дѣлех твоихъ. с потомъ своимъ имаешь ꙗсти хлѣбъ свои (Чэцця, 23б); Кто ѡ*т*нимаеть хлебъ человѣку онъ же с потомъ добывае*т* его, есть ꙗкобы тои онъ же погублѧеть ближнего своего (Скар. ІС, 56).

**Потъ II** *гл.* подъ

**Поты** *прысл.* **1.** *Датуль, да таго часу.* он самъ просилъ, абых его поставил у себе поты, покиб самъ коня отнял (АВК, XXXIX, 345, 1579); хотя бы листъ и друкованый былъ, покуль печатьми укгрунтованъ не будетъ, поты листомъ, водле права, слушнымъ быть не можетъ (АВК, VIII, 453, 1588); державъ у везенью яко слугу рукоданного, съ которымъ теперь поступуетъ и оного доходити будетъ поты, пока ся его милость не справитъ (АВК, II, 295, 1595); поки дерева с коренꙗ не выкопае*т* поты бꙋде росло (Стрыйк., 473б); Поки человѣкъ Бг҃а сѧ держитъ, и поки при нем[s] найдꙋетсѧ, поты нѣчого здорожного не броитъ, и поты нѣчого погибели годного не чини*т* (Каліст, I, 12); ꙋва*ж* ижъ ты*м* ꙋченико*м* подобни су*т* тии, которые поты слꙋжать христови и побожности, поки и*м* речы добрые плыну*т* (Зб. 255, 248); боꙗзнь з[s] себе не трвае*т* ты*л*ко поты поки зꙋпелъно*ст* ласки божеи не настꙋпитъ (Зб. 259, 641); поты тое повѣтре трвало, поки тыи жъ людіе не покаѧли сѧ (Зб. вып., 24).

**2.** *Затым, потым; пасля гэтага.* насъ обеюхъ ... одно яко виноватыхъ своихъ взять, поймать и за шыю повести и поты насъ у везенью своемъ держати (ИЮМ, VII, 407, 1588); ажъ поты помага*л* намъ гсдь (Біблія, 310); ꙗ далемъ емꙋ ключѣ и дверѣ рекши емꙋ, поты прійдешъ (Каліст, II, 51б–52); Поты сѧ кончи*т* таѧ книга, которꙋю ведлꙋгъ силы моеи выписалемъ, ꙗкъ неѡмылне принѧвши ѡ*т* знамениты*х* мꙋжей (Варл., 362); сотворилъ темность, котораѧ была на*д* водами, в которой стали вечеръ и ночь. поты Епифаній (Хран., 1б).

**Потыканье, потиканье** *наз.* **1.** *Спатканне, сустрэча.* братья ... на потыканье его королевское милости въ поле, або на сторожу мѣстскую выходити будуть (АСД, I, 163, 1582); въскрсніе, не зопсова*н*е, и з[s] аг҃глы веселіе, сн҃а на оболоцѣх потыка*н*е (Каз. Кір., 30); ѡсобне вожове их, бꙋбны мају*т* и пища*л*ки, взбꙋжаючи

люд кѹ потиканю (Бельск., 411б); мужеве и жены и дѣтми на потыкане ст҃аго тѣла вышли (Зб. 752, 112); наꙁахорсъ ѹзрѣлъ царицѹ с царем филипом на потыканsю (Алекс. 1697, 4).

**2.** *Сутыкненне, сутычка, бой.* асса тꙗгнул против нему и зшиковал воsско ку потыканю в долине софаѳа (Біблія, 432); ѡ потыканю ѡт исава брата з чотырма стами людѹ (Бельск., 24); головѹ мою на першом потыканю за ѡтчизнѹ всѣм неприꙗзностꙗм заставлю и заложѹ (Стрыйк., 444); кгды се воsска его з рѹскими поткали зараз воевода краковскиs на першом потыканю ѹтекъ (Хр. польск., 8б); ѡбачил симон ижъ иѡан сынъ его был моцным до потыканꙗ мужем, и постановил его гетманом над всим войском и мешкал в газарах (Кн. Мак., 64); если хто взѧвши бронь Хрстовѹ длѧ мѹжного потыканьѧ на войнѣ, ослабѣеть, таковый подданъ бываетъ неприѧтелем (Мак., 340); был есми и ꙗ тут Антоние, але гледѣлъ есми на мужество и потыкане твое: не боs же сꙗ (Зб. 752, 485); зшиковалъ войско кѹ потыканью вs долинѣ софаѳа котораѧ есть Маріса (Хран., 307).

**Потыканьесе** *наз. Дзеянне па дзеясл.* потыкатися *ў* 1 *знач.* Срѣтеніе: Стрѣчене, споткане, потыканsесѧ сs кимъ (Бяр., 155).

**Потыкати** *дзеясл.* **1.** *Спатыкаць, сустракаць каго-н.* мамъ на то людей, которыи потыкали едучи на томъ кони моемъ рижомъ (АВК, XVII, 316, 1541); ижъ и теперь далѣй границъ своихъ не маютъ они пановъ комисаровъ потыкати (АЗР, II, 387, 1542); идучи по дорозѣ, много жъ людей тягнучихъ на войну до Олександровы слободы потыкалъ (АЗР, III, 164, 1573); тежъ и мнѡго зs ꙗрмаркѹ ѣдѹчихъ потыкали, не забавлѧютсѧ з ними, маючи цѣль замѣроный, видѣтисѧ зs приѧтелми (Мак., 137); кгды онъ вышолъ ... до дому своего, до Степанковъ, потыкалъ мене отецъ Захарій ... оповѣдалъ и освѣчилъ мнѣ, возному, жаль свой (АВК, III, 32, 1629).

**2.** *Выходзіць насустрач, вітаць каго-н.* днꙗ нинеsшого перед ѡбедомъ ... посла татаръского потыкалъ (КВС, 453б, 1552); потом мы которыи живо зостанем вкѹпѣ з ним похвачени бѹдемъ на оболоцѣх потыкаючи г҃а на повѣтрѹ (Каз. Кір., 26б); кгды кроль до которого мѣста приближаетсѧ, люде пристойнымъ помешканемъ оурѧдами и преложенствы знаменитыи, зs великою оуфностью, не чекаючи вs мѣстѣ приездѹ его, далеко перед мѣстомъ потыкаютъ его и витают (Каліст, I, 157); продковѣ их

зˢ такою оучтивостію потыкали, и которого тымі словы витали, ꙗк тепер хс҃ потыкают и вітают мовꙗчи (Жыц. св., 136).

**3.** // *перан. Спасцігаць, здарацца (пра бяду, няшчасце і пад.).* се есть ѡт скорбей и трудностей которие их потыкати мѣли (Будны, 140б); Реклъ гедиѡн если гдъ з нами чомꙋ нас тые злые речи потыкают (Бельск. 72); все то длѧ дш҃и твоей бываетъ, хочешъ вˢ свѣтѣ жити, и богатымъ быти, потыкаютъ тебе вси нещастѧ (Мак., 299); значная знѣвага и безчестье найяснейшого короля его ... милостивого въ особахъ насъ посланниковъ потыкаеть (АЗР, V, 23, 1637); ѡткул се ꙋчымо, ижъ коли нас кривды потыкают, болшеˢ молчанием нiж ѡтповеданем выграемъ (Зб. 255, 260б–261).

**4.** *Тое, што і* потыкатися I *у* 2 *знач.* сам тот Володымер монарха з неприꙗтели завжды потыкал (Стрыйк., 471б); Ісавъ потыкае Іакова брата зˢ четырмаста людꙋ (Хран., 50б).

**Потыкати II** *дзеясл.* **1.** *Натыкаць, расставіць, размясціць што-н.* вставши ст҃ый нашолъ трстины которыхˢ онˢ длѧ знакꙋ потыкалъ былъ, звѧзаный (Мак., 15).

**2.** *Патыкаць (папароць, пакалоць).* диꙗвол ... верещал а взад сѧ крꙋтꙗчы головою земли потыкал (Зб. 82, 102б).

**Потыкатися, потыкаться I** *дзеясл.* **1.** *Спатыкацца, трапляцца каму-н. насустрач.* зˢ мнѡгими зась злыми дꙋхами вˢ пꙋстыни потыкалсѧ (Варл., 359); Срѧщаю: Стрѣтаю, потыкаюсѧ сˢ кимˢ вˢ дорозѣ (Бяр., 155); Заховает в покою дш҃у мою ѡт тых которие сꙗ потыкают со мною (Пс. XVII, 38б).

**2.** *Сутыкацца, уступаць у сутычку, сыходзіцца ў баі.* Не з великою небезпечностю звитѧжство ѡдержымъ, если ѡднаким мужствомъ и ѡднаким сэрцэмъ з непрыѧтелемъ сѧ потыкати будемъ (Атыла, 195); рꙋс и литва длꙗ волности а выбитꙗ з голдꙋ татарског, мꙋжне сꙗ потыкали, татарове зас боронꙗчи лꙋпов и полонꙋ и ꙋпорностю и мнозством потужности, ѡказовалисꙗ аж на ѡстаткꙋ, ꙋтекат почали (Стрыйк., 422б); В тоˢ часъ коли се царъ Филипъ з неприꙗтелем своим потыкал, и ѡного звитꙗжил видѣлъ смока (Алекс., 3); жолнѣръ, не ижъбы толко себе оборонилъ и зˢ небезпеченства ратовалъ, вˢ зброю оубираетсѧ, и зˢ непріателемъ потыкаетсѧ (Каліст, II, 112б); взѧлемъ абовѣмъ вѣдомость, жесь сѧ добре потыкалъ зˢ Галілейчиками, и велцесь, значное звитѧжство ѡдержал (Варл., 263); Борꙋсѧ: Валчꙋ,

потыкаюся сварꙋс (Бяр., 211); добрый жолнѣръ ꙋмѣет добре сѧ потыкати и непріателѧ своего пожити (Выкл., 113); Не вы бꙋдете з ними се потыкать, але толко смѣле стойте, а ꙋзрите помочь гсднюю над[s] вами: бо гсдь бꙋдет[s] з вами (Хран., 318).

**Потыкатися II** *дзеясл. Спатыкацца, ісці, няспрытна ступаючы.* повставши слѣпый ѡтецъ его, инѧлъ потыкаючисѧ бѣжа*т*, а давши рꙋку слузѣ выбѣжалъ противко сынови своему (Біблія, 599); в[s] свѣтлости цнѡ*т* ходѧчіи не потыкаю*т*сѧ, але правою приказаній Бж҃и*х* дорогою безпечне идꙋтъ (Каліст, II, 344); ѩк за мѣсто вышли, заледве с трꙋдностю, и ѡстры*м* напомне*н*емъ, и наконецъ, срокгим[s] загроже*н*емъ ѡ*т* него ѡторвалисѧ, и не хотѧчи вернꙋлисѧ, частокро*т* ѡгледаючисѧ, и в[s] хоже*н*ю потыкаючисѧ (Варл., 334).

**Потыкаться** *гл.* потыкатися I

**Потыкаючийся I** *дзеепрым. ад* потыкатися I *у* 2 *знач.* Ѡ во[s]ска*х* на повѣтрꙋ потыкаючи*х*се рокꙋ ѧфзі: видѣно ве влоше*х* на повѣтрꙋ во[s]ска великие потыкаючиесѧ (Бельск., 403).

**Потыкаючийся II** *дзеепрым. ад* потыкатися II. Не пристои*т* бовѣ*м* оупадати потыкаючемꙋсѧ, поневажъ мнѡгіе оупавши, повстати не могли (Варл., 97б).

**Потыкающыйся** *дзеепрым. ад* потыкатися I *у* 2 *знач.* Видели на повѣтрыю воиска потыкающэся (Атыла, 212).

**Потылица, патылица** *наз. Патыліца.* перъво мѧ по виденью билъ а пото*м* за потылицꙋ мѧ рвалъ (КВЗС, 73, 1538); въ Ондрея голова пробита близу потылицы (АВК, XVII, 246, 1540); виделъ есми ... засе у потылицы две раны тятыхъ накрижъ (АВК, XXI, 37, 1555); На небожчику Семену виделъ есми рану у потылицы, сокерою тятую (АВК, XXII, 286, 1565–1566); я возный видел есми на том боярыну ... рану у голове, на потылицы рану синевую (АВК, XXXVI, 310, 1582); бачилъ есми на немъ раны у потылицы битую, кривавую (АВК, XXVIII, 21, 1585); видел есми на нем раны, напрод две раны на потылицы левое стороны тятые (АВК, XXXI, 62, 1590); на патылицы рана кривавая, знать ощепомъ проколота (АВК, XVIII, 138, 1596); которые сознали, ижъ видели того забитого небощыка Игната Андреевича ударого чымъ се у потылицу, зъ ушъ кровъ (ИЮМ, VIII, 316, 1611); видѣлъ есми на томъ тѣлѣ небожчыка пана Василя енерала въ головѣ въ потылицы рану тятую (АСД, III, 105, 1631).

